У родным краю, як у раю

# Дзядзінец

№2. зіма. 2000–2001

краязнаўчы бюлетэнь Гарадзеншчыны

## Ад Рэдакцыі

Сабака застаўся галодны...

Мы моцна хваляваліся, выпускаючы першы "Дзядзінец" у сьвет. Вядома, што ўсе памылкі, незаўважаныя падчас стварэньня нумару, выяўляюцца потым, калі ўвесь наклад ужо надрукаваны й выправіць нешта немагчыма. Аблудаў, адзначаных намі пазьней ці падказаных чытачамі, рэдакцыя будзе імкнуцца пазьбягаць у будучыні, каб кожны наступны нумар быў лепшы за свайго папярэдніка.

Разам з гэтым, хочацца ўзгадаць і мноства станоўчых ацэнак "Дзядзінцу" ды проста па-чалавечы цёплых словаў, якія мы пачулі й ад сталых краязнаўцаў ды журналістаў, і ад аднагодкаў у свой адрас. А гэта, на думку рэдакцыі, і зьяўляецца сапраўдным падмуркам нашага агульнага Дзядзінцу.

Дарэчы, колькасьць "будаўнікоў" бюлетэня значна павялічылася. У склад рэдакцыі ўвайшлі новыя людзі (цудоўныя хлопцы й дзяўчаты!), на якіх мы ўскладаем вялікія спадзяваньні. Гэтаксама адгукнулася некалькі чалавек, каторыя выказалі ахвоту аказваць рознабаковую дапамогу "Дзядзінцу". Усё гэта нас вельмі й вельмі цешыць: старая беларуская прымаўка пра тое, што першы блін сабаку, відаць, у гэты раз ня спраўдзілася.

Сабака застаўся галодны...



Фота з архіву Ўладзімера Выдзеркі

Тэма нумару

## Праз мяжу тысячагодзьдзяў...

**На мяжы - якой бы ні была гэная мяжа - Кола Часу заўсёды круціцца хутчэй: па ўскрайках імпэрыяў распальваюцца паўстанцкія вогнішчы; у паласе прыбою ў адвечным змаганьні із скаламі натужліва выюць сівыя акіянскія хвалі; пры нулявой тэмпэратуры вада пераўтвараецца ў лёд, а лёд - у ваду...**

**Мы гэтаксама сталі на мяжы. На мяжы, больш значнай за якую дзяржаўную, усталяваную людзьмі. У адрозьненьне ад апошняе, гэтую нельга абмінуць цішком ці проста ўзяць ды адмяніць, пераўсталяваць у іншым месцы на ўласны капыл ці зьнішчыць з дапамогаю зброі. Тутака не сталіся памежнікі, не тырчаць з раньлі слупы з нацягнутым дротам, ня сьвецяць ліхтарамі мытнікі...**

**Можна толькі падрыхтавацца да сустрэчы зь Мяжой. Добрым словам разьвітацца зь мінулым тысячагодзьдзем і з годнасьцяй зірнуць у вочы наступнаму.**

**І ад гэтае сустрэчы - як ад апошняга дотыку пэндзьля да карціны - залежыць, якім застанецца ў памяці нашчадкаў наш час і якія падмуркі будуць закладзеныя ў іхны. Недарэмна ж існуе народная прыкмета: як сустрэнеш новае тысячагодзьдзе, так яго і пражывеш...**

## У летапіс

**“Праблемы айчыннай гістарыяграфіі“**

Пад такой назвай 19-21 студзеня ў Горадні адбылася навукова-тэарэтычная канфэрэнцыя. Удзел у ёй узялі знаныя гісторыкі з Горадні, Менску ды іншых гарадоў Беларусі, а таксама зь Беластоку.

У межах канфэрэнцыі адбыўся Ўстаноўчы сход Беларускага Гістарычнага Таварыства. Быў прыняты Статут і праект сымболікі арганізацыі, абраны выканкам Рады таварыства зь сямёх чалавек. Старшынём выканкаму быў абраны доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч.

*Сяржук Кузьняцоў*

**Каханьне – рухавік гісторыі.**

Незвычайны навуковы сэмінар “Каханьне ў гісторыі і культуры Беларусі” адбыўся ў Горадні ў дзень Сьвятога Валянціна.

Мерапрыемства праводзілася навукова-дасьледчай лябараторыяй рэгіянальных праблем пры ГарДУ. Даклады ўдзельнікаў сэмінару апавядалі пра сапраўдную прычыну напісаньня Міхалам Клеафасам Агінскім свайго славутага палянэзу, аб тым, што матывавала грамадзкую і палітычную дзейнасьць Рамана Скірмунта ды аб іншых незвычайных рэчах. Жывую дыскусію выклікаў даклад асьпіранткі ГарДУ Наталі Сьліж “Сэксуальнае жыцьцё шляхты ў XVI-XVIIIст.ст.”

Сэмінар яшчэ раз пацьвердзіў той факт, што славутасьці мінуўшчыны – звычайныя людзі, на першым месцы ў якіх было каханьне.

*Юрась Корыкаў*

**Газэта ПАГОНЯ абвесьціла Ларысу Геніюш чалавекам стагодзьдзя Гарадзеншчыны.**

Да такой думкі прышла рэдакцыя пасьля апытаньня больш як сотні журналістаў, гісторыкаў, палітыкаў і грамадзкіх дзеячоў.

На спабор «Чалавек стагодзьдзя Гарадзеншчыны», які газэта абвесьціла напрыканцы мінулага году, былі вылучаны некалькі дзясяткаў гарадзенкіх пісьменьнікаў, паэтаў, навукоўцаў, дзеячоў культуры, спартоўцаў і палітыкаў.

*Франя Краска*

**Дарэчы, 25 студзеня пабачыў сьвет пяцісоты нумар ПАГОНІ. Рэдакцыя “Дзядзінцу” далучаецца да шматлікіх віншаваньняў і зычыць гэтаму цудоўнаму выданьню мора шчасьця і швадрон удзячных чытачоў!**

**У сярэдзіне сьнежня ў Радуні адкрылася летувіская нядзельная школа.**

Заарганізавала яе Радуньскае Летувіскае аб'яднаньне «Gintaras» («бурштын») Штотыдзень тут будуць праходзіць заняткі па вывучэньню летувіскай мовы, этнакультуры, гісторыі і геаграфіі. На Радуншчыне існуе ўнікальная мясцовасьць, заселеная балтамоўнымі басьцянамі (нашчадкамі прусаў). У вёсцы Пеляса яны маюць летувіскую сярэднюю школу, культурны цэнтар «Tevyne» («Радзіма»), а таксама летувіскі касьцёл.

**Слонімскую сынагогу аддалі вернікам.**

Музэй гісторыі юдаізму Заходняй Беларусі і школа па вывучэньню Торы (жыдоўская назва першых пяці кніг Біблії) разьмесьцяцца ў старажытным будынку Слонімскай сынагогі, які ў сьнежні 2000 году быў вернуты вернікам.

Будынак сынагогі быў пабудаваны ў 1642 годзе як частка комплексу гарадзкіх умацаваньняў і зьяўляецца помнікам архітэктуры барока рэспубліканскага значэньня. Але, нягледзячы на ўнікальнасьць помніка, будынак доўгі час заставаўся ў занядбаным стане. Гарадзкія ўлады аддалі будынак жыдоўскай грамадзе толькі пасьля таго, як у будынку абвалілася ўваходная брама. Працы па кансэрвацыі, а потым і рэстаўрацыя сынагогі павінныя распачацца ў сярэдзіне сакавіка 2001 году пры падтрымцы Ўсясьветнага жыдоўскага мэмарыяльнага фонду (Ню-Ёрк, ЗША).

**Першы шлюб за 50 гадоў**

**4 студзеня адбыўся шлюбны абрад у Слонімскім мячэту.**

Апошні раз жыхары места бралі шлюб паводле мусульманскага абраду 50 гадоў таму. Напярэдадні шлюбу 20-гадовая слонімка прыняла іслам і ўзяла сабе ісламскае ймя. Гэта ўжо другі падобны выпадак за апошні час: у 1999 годзе мусульманкай стала яшчэ адна маладая жыхарка гораду.

*BARC List News*

**Адным горадам стала больш.**

Напрыканцы мінулага году мястэчку Сьвіслач Гарадзенскай вобласьці быў нададзены статус гораду. Такім чынам, на сёньняшні дзень у Гарадзенскай вобласьці налічваецца 11 гарадоў.

*Мікола Кавалевіч*

**Па вобласьці**

**У кожнай чацьвертай вёсцы на Гарадзеншчыне не пражываюць дзеці, маладзейшыя за 15 гадоў.**

А ў 300 з 4000 вёсак усё насельніцтва складаецца з пэнсіянэраў. Па гэтай прычыне шэраг населеных пунктаў вобласьці ў хуткім часе спыняць сваё існаваньне натуральным шляхам. Як паведамляе «Радыё Рацыя» із спасылкай на «Інтерфакс», сярэдняя працягласьць жыцьця мужчынаў у Беларусі складае 62,7 гады, жанчын - 74,4 (у той час, калі 10 гадоў таму яна складала адпаведна - 66,3 і 75,6 гадоў).

*BDG-online*

А ў нас у маёнтку

# Краявід – гэта мы

Ясь Сьлівінскі



**11 лютага ў Горадні прайшоў Устаноўчы сход Гарадзенскага маладзёвага краязнаўчага грамадзкага аб'яднаньня "Краявід".**

**Гэткім чынам маладыя краязнаўцы аформіліся ў арганізацыю. На сход прыехалі прадстаўнікі большасьці рэгіёнаў Гарадзеншчыны. Такім чынам, арганізацыя займела статус абласнога аб'яднаньня.**

**Назва арганізацыі – Краявід – была абраная не выпадкова. Як патлумачыў адзін з выступоўцаў на Устаноўчым сходзе, краявід – гэта тое, што мы бачым вакол сябе, тыя мясьціны, дзе мы жывем, якія зьяўляюцца маленькай Радзімай кожнага з нас, якія мы найбольш любім. Апроч таго, краявід – гэта ня толькі пагорак, лес або рэчка, але й людзі, і будынкі, і гісторыя гэтых мясьцінаў...**

**Акрамя назвы быў зацьверджаны статут аб'яднаньня, абраныя кіраўнічыя і кантрольна-рэвізыйныя органы, разгледжаныя іншыя пытаньні.**

**Усе патрэбныя дакументы былі пададзеныя ўва Упраўленьне юстыцыі для дзяржаўнай рэгістрацыі аб'яднаньня.**

## Краязнаўчы рух на месцы не стаіць...

Міхась Белы

**4 лютага ў Лідзе адбылася канфэрэнцыя-сэмінар пашыранай Рады Беларускага краязнаўчага таварыства імя Т.Нарбута.**

У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел больш за 100 чалавек – прадстаўнікі амаль усіх раёнаў Гарадзенскай вобласьці. Мерапрыемства ўражвала сваёй прадстаўнічасьцю – прафэсары ГарДУ С.А.Габрусевіч, А.М.Пяткевіч, доктар гістарычных навук А. Краўцэвіч, вядомыя краязнаўцы А.Госьцеў, А.Майсяёнак, Э.Корзун, С.Суднік, Ул.Хільмановіч і шмат іншых. Сярод ўдзельнікаў канфэрэнцыі варта адзначыць вялікую колькасьць моладзі, якая цікавіцца гісторыяй і культурай роднай зямлі. Арганізацыю "Краявід" на сэмінары прадстаўляў Юрась Корыкаў.

У дакладах выступоўцаў абмяркоўваўся сучасны стан і пэрспэктывы разьвіцьця краязнаўчага руху на Гардзеншчыне. Падчас сэмінару адбыўся Устаноўчы сход Лідзкага краязнаўчага таварыства, а таксама praведзена пашырэньне Рады краязнаўчага таварыства імя Т.Нарбута. Юрась Корыкаў быў каптаваны ў пашыраную Раду таварыства як прадстаўнік "Краявіду".

## Ласосьненская сустрэча

Вінцэнт Буць

**2 лютага сябры ГМКГА "Краявід" правялі ў Ласосьненскай сярэдняй школе сустрэчу з навучэнцамі 8-11 клясаў. Гэткім чынам маладыя краязнаўцы вырашылі адзначыць чарговыя ўгодкі із дня нараджэньня Кастуся Каліноўскага.**

Напачатку арганізатары мерапрыемства перадалі школе падарункі ад былога навучэнца гэтай установы Фэлікса Гавіна.

Затым перад прысутнымі выступіў вядомы археоляг і гісторык Генадзь Семянчук. Ён распавёў шкаляром пра найбольш цікавыя моманты з жыцьця Кастуся Каліноўскага.

Пасьля лекцыі краявідаўцы правялі віктарыну, пытаньні якой тычыліся біяграфіі Каліноўскага й падзеяў 1863-1864 гадоў. Пераможцаў узнагародзілі кніжкамі і касэтамі зь беларускай музыкай. Чатыром найбольш актыўным удзельнікам віктарыны былі ўручаныя ганаровыя дыплёмы. Усе прысутныя атрымалі буклеты "Постаці: Кастусь Каліноўскі".

На завяршэньне з імправізаваным канцэртам перад шкалярамі выступілі гарадзенскія барды Валера Руселік і Слава Жукаў.

*ГМКГА "Краявід" выказвае шчырую падзяку Маладому Фронту ў асобе Андруся Мялешкі за фінансаваньне віктарыны, Маладой Грамадзе ў асобе Валянціна Аскіркі за шыхтоўку буклета, Алесю Госьцеву за кансультацыі й дапамогу ў ілюстраваньні буклета, Генадзь Семянчуку й Вячаславу Жукаву за дапамогу ў правядзеньні сустрэчы, Юрасю Тарасевічу за дапамогу ў ілюстраваньні буклета, ГА "Ратуша" ў асобе Віктара Шалкевіча за памнажэньне накладу буклета.*



Вольны пакой

Кацярына Кравец

# Цень ад чорнага крыжа

**У апошняе дзесяцігодзьдзе ў Беларусі (як і на ўсёй астатняй тэрыторыі былога СССР) адбыўся "рэлігійны выбух". У выніку, некалі атэізаванае насельніцтва краіны трапіла пад моцны ўплыў разнастайных рэлігійных аб'яднаньняў, як звыклых, гэтак і нетрадыцыйных. Недаацэнка ж уладамі іхнага ўзьдзеяньня на розумы грамадзянаў прывяла да нечаканых вынікаў і сацыяльных працэсаў.**



Сан Мэн Мун

Сёньня ў Гарадзенскай вобласьці дзейнічаюць 17 зарэгістраваных рэлігійных канфэсіяў, неафіцыйна ж існуе значна больш. Адной зь іх зьяўляецца Царква Аб'яднаньня – ці не найбагацейшая рэлігійная арганізацыя сьвету, афіцыйна прызнаная дэструктыўнай сэктай*.

Царква Аб'яднаньня была заснаваная 1 траўня 1954 году ў Паўднёвай Карэі сьвятаром Сан Мэн Мунам, дзейнічае сёньня ў 160 краінах. Да яе належыць вялікая колькасьць іншых рэлігійных, грамадзкіх, камэрцыйных, навуковых і спартовых арганізацыяў, створаных дзеля больш эфэктыўнай прапаганды сэкты.

У Беларусі муніты ўпершыню зьявіліся ў 1992 годзе, зарэгістраваўшыся як CARP (студэнцкая асацыяцыя па вывучэньню Прынцыпу). Пры падтрымцы Міністэрства адукацыі РБ муніты разгарнулі шэраг адукацыйных праграм для моладзі, а таксама канфэрэнцыяў і сэмінараў для кіроўных кадраў краіны.

### Звычайная гісторыя

Аднойчы я размаўляла зь лепшай сяброўкай. І яна пахвалілася мне, што, нарэшце, знайшла сапраўдны сэнс жыцьця. Ганка – рамантычная летуценьніца. Яна любіць памарыць ды пазьбягае вялікіх гаманкіх кампаніяў. Мы сябруем зь ёй яшчэ з восьмае клясы, пасьля школы паступілі на адзін факультэт.

Ганка распавяла мне, як нядаўна яе запрасілі ў адну грамадзкую маладзёвую арганізацыю й як хараша яе там сустрэлі. Тады я парадавалася за сваю сяброўку.

Праз колькі дзён я надумала наведаць новых Ганчыных сяброў. Сустрэлі мяне цёпла, па-сямейнаму. Нейкі хлопец загаварыў із мной. Ён доўга разважаў на рэлігійныя тэмы, чамусьці намяшаўшы ў адно і з хрысьціянства, і з паганства, і з апошніх навуковых адкрыцьцяў і пераказаўшы гісторыю Адама і Эвы ўва ўласнай інтэрпрэтацыі. Напрыканцы "лекцыі" ён прышоў да высновы аб неабходнасьці чыстага каханьня, ідэальнае сям'і й г.д. Анічога новага для сябе я не пачула, але заўважыла адну дзіўную рэч: хлопец увесь час усьміхаўся мне, пакуль не пачуў, што я каталічка. У гэты момант ягоная ўсьмешка раптам зьнікла, але хутка зьявілася ізноў. На разьвітаньне мяне папрасілі пакінуць свае каардынаты ў кнізе для гасьцей і спыталі, калі я завітаю яшчэ...

Больш я туды не прыходзіла. Затое паспрабавала адшукаць якую-кольвек інфармацыю пра іх. Страшнае слова "сэкта" вымалявалася ў падсьвядомасьці й адбілася ў літаратуры. "Змагары" за чыстае каханьне, насамрэч, аказаліся вернікамі Царквы Аб'яднаньня Сан Мэн Муна.

Рэакцыя Ганкі на знойдзеныя мною зьвесткі была вельмі адмоўнай. Яна гістэрычна засьмяялася мне проста ў твар і сказала, што ўсё гэта паклёп і што яна на ўласныя вочы бачыла нябеснае зьзяньне, якое зыходзіла ад аднаго з мунітаў. Запытацца, што сяброўка перад гэтым ужывала, я так і не рызыкнула...

Апошнім часам мы амаль не размаўлялі. "Ня ведаю, ці будзем мы з табой сябраваць надалей. Я вельмі зьмянілася," – сказала яна аднойчы стомленым і абыякавым голасам. І з гэтым немагчыма было не пагадзіцца...

Колькі дзён таму я даведалася, што сяброўка зьехала ў Санкт-Пецярбург, каб узяць шлюб зь нейкім мунітам з Казахстану. Раней свайго жаніха яна ніколі ня бачыла...

***"Сэкта" (лац. sekta -вучэньне) - "адцінаньне, частка цэлага". Звычайна сэктай называюць нешта новае, адрознае ад агульнавядомага. Да прыкладу, сэктамі лічылі філязофскія погляды Плятона і Арыстоцеля, рэвалюцыйныя для таго часу. І хто ведае, магчыма, першых хрысьціянаў у Рымскай імпэрыі гэтаксама ўважалі за сэктантаў...**



За сьпінай – места

# Чаго мы ня ведаем пра Каложу?

Алена Сідар

**Выява Барысаглебскай, або Калоскай, царквы здаўна стала "візытоўкай"нашага места. І хаця беларуская тэлевізія прыкладае ўсе намаганьні, каб аблічча Горадні асацыявалася найперш з будынкам драмтэатра, Каложа трывала займае адное зь першых месцаў у сэрцах і самых гарадзенцаў, і ў памяці гасьцей места.**

Апошнім мы з гонарам паведамляем, што Барысаглебская царква была пабудаваная ў другой палове XII стагодзьдзя, што яе часткова пашкодзілі разлівы Нёману, і пры гэтым дэманстратыўна ківаем на адноўленую драўляную частку будынка. Гісторык можа ўзгадаць пра яшчэ адну гарадзенскую царкву – г.зв. "Ніжнюю".

Абодва помнікі пацьверджваюць існаваньне на Гарадзеншчыне самастойнай архітэктурна-мастацкай школы. Часам згадваюць астатнія адметнасьці Каложы: умураваныя галасьнікі й каляровую вонкавую мазаіку ў выглядзе крыжоў рознай велічыні. Гэта ўся інфармацыя пра каштоўны помнік дойлідзтва, якой валодаюць гарадзенцы. На жаль, мы ня ведаем тых фактаў, якімі варта ганарыцца. А ганарыцца ёсьць чым!

Фонд архітэктуры пры ААН склаў усясьветны рэестар архітэктурных здабыткаў. Помнікі ў ім разьмеркаваныя па групах паводле ступені каштоўнасьці. Самыя ўнікальныя архітэктурныя будынкі складаюць узровень г.зв. "нулявой велічыні". Помнікі крыху меншага значэньня заносяцца на ўзровень першай велічыні, яшчэ меней значныя – на ўзровень другой велічыні й г.д.



Фота Аляксандра Кузьняцова

Барысаглебская царква

Вядомыя экспэрты да архітэктурных рэліквіяў нулявой велічыні аднесьлі ўсяго толькі 200 аб'ектаў. А гэта значыць, што ў сьвеце налічваецца толькі 200 будынкаў, каштоўнасьць якіх ня мае грашовага вымярэньня, і сярод іх – Каложа. Заўважым, што з усяе тэрыторыі СНД толькі два гістарычныя помнікі атрымалі ступень найвышэйшае каштоўнасьці: наша Барысаглебская царква і Блакітны мячэт у Самаркандзе. А такія славутыя аб'екты турысцкага паломніцтва, як Маскоўскі крэмаль і палацавыя комплексы Пецярбургу, – усяго толькі ўзровень першае велічыні.

Падставу для гэткай высокай ацэнкі замежнымі спэцыялістамі Барысаглебскае царквы ня трэба шукаць у пачэсным узросьце будынка, у галасьніках альбо спэцыфічнай гарадзенскай цэгле – плінфе. Прычына ўнікальнасьці нечаканая: агульнавядома, што ў 1054 годзе адбыўся канчатковы раскол хрысьціянства на каталіцкую і артадаксальную (праваслаўную) цэрквы. Але малавядомым застаецца той факт, што ў гэтым жа годзе ў хрысьціянскае вучэньне ўводзіцца супрацьлеглая Богу постаць д'ябла. Да гэтага часу царква заахвочвала вернікаў культам любові, веры й надзеі. А таму храмы будаваліся сьветлыя й радасныя, як зямная брама ў рай.

З 1054 году духавенства пачало карыстацца больш радыкальнымі мерамі: запалохваньнем і пакараньнем. Сьвет абвясьцілі сапсаваным і брудным, чалавека – грахоўным, а прыняцьце хрысьціянства – адзіным магчымым спосабам пазьбегнуць пекла. Сьвятары сталі на шлях змаганьня з д'яблам (ці не адсюль выраз "духоўнае ваярства"?), а таму храмы будаваліся як цьверадзі веры. Магутныя муры з вузкімі "байніцамі" вокнаў, стромыя патаемныя сходы, змрочныя сутарэньні. Царква рыхтавалася да зацятай вайны з Люцыпарам, паганствам, а па сутнасьці – з самой чалавечай прыродай. Прыкладна па гэткай схеме ўзводзіліся новыя храмы й перабудоўваліся старыя. Каложу зьмяніць на пасьпелі, ня здолелі або не схацелі. Хто ведае, як тое было...

Сёньня важна памятаць, што Барысаглебская царква ў Горадні – адзіны ў сьвеце помнік хрысьціянскай культавай архітэктуры да зьяўленьня вучэньня пра д'ябла. Мо ў гэтым тоіцца загадка ейнай вельмі адчувальнай, амаль чалавечай цеплыні і пазытыўнай энэргетыкі.

**Ад рэдакцыі: Сёньня Каложа знаходзіцца ў катастрафічным стане. Недагледжаны й неўмацаваны схіл ужо ня здольны надалей утрымліваць стары парэпаны падмурак царквы. І ўнікальны помнік архітэктуры – агульная спадчына ўсяго чалавецтва – у любы момант можа абрынуць у Нёман...**

**Што будзем рабіць?**

## Сакавік 2001

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ат. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Пт. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| *Сб.* | *3* | *10* | *17* | *24* | *31* |
| *Нд.* | *4* | *11* | *18* | *25* | |

## Красавік

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ат. | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ср. | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| *Сб.* | | *7* | *14* | *21* | *28* | |
| *Нд.* | *1* | *8* | *15* | *22* | *29* | |

## Травень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ат. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Пт. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| *Сб.* | *5* | *12* | *19* | *26* | |
| *Нд.* | *6* | *13* | *20* | *27* | |

## Чэрвень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ат. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| *Сб.* | *2* | *9* | *16* | *23* | *30* |
| *Нд.* | *3* | *10* | *17* | *24* | |

## Ліпень

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ат. | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ср. | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| *Сб.* | | *7* | *14* | *21* | *28* | |
| *Нд.* | *1* | *8* | *15* | *22* | *29* | |

## Жнівень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ат. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Пт. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| *Сб.* | *4* | *11* | *18* | *25* | |
| *Нд.* | *5* | *12* | *19* | *26* | |

## Верасень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| Ат. | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ср. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Чц. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Пт. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| *Сб.* | *1* | *8* | *15* | *22* | *29* |
| *Нд.* | *2* | *9* | *16* | *23* | *30* |

## Кастрычнік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ат. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Чц. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Пт. | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| *Сб.* | *6* | *13* | *20* | *27* | |
| *Нд.* | *7* | *14* | *21* | *28* | |

## Лістапад

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ат. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Пт. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| *Сб.* | *3* | *10* | *17* | *24* | |
| *Нд.* | *4* | *11* | *18* | *25* | |

## Сьнежань

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 3 | 10 | 17 | 23 | 30 |
| Ат. | | 4 | 11 | 18 | 24 | 31 |
| Ср. | | 5 | 12 | 19 | 25 | |
| Чц. | | 6 | 13 | 20 | 26 | |
| Пт. | | 7 | 14 | 21 | 27 | |
| *Сб.* | *1* | *8* | *15* | *22* | *28* | |
| *Нд.* | *2* | *9* | *16* | *23* | *29* | |

## Студзень 2002

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ат. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Пт. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| *Сб.* | *5* | *12* | *19* | *26* | |
| *Нд.* | *6* | *13* | *20* | *27* | |

## Люты

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Пн. | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ат. | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср. | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц. | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт. 1 | 8 | 15 | 22 | |
| *Сб. 2* | *9* | *16* | *23* | |
| *Нд. 3* | *10* | *17* | *24* | |


Гарадзенскае маладзёвае краязнаўчае
грамадзкае аб'яднаньне «Краявід»

а/с 61
230009 Горадня

e-mail: krajavid@tut.by



Дзядзінец – папулярна-краязнаўчы
часапіс Гарадзеншчыны
а/с 101
230020 Горадня
e-mail: dziadziniec@tut.by

"А казалі старыке..."

Сабраў і занатаваў
Валеры Руселік

# Настардамусіха зь вёскі Загараны



**Звычайна астролягі й вяшчуны прымяркоўваюць свае прадказаньні да якой-небудзь значнай даты. Прыкладам, гэткай, як надыход новага тысячагодзьдзя...**

**Сёньня пра тое, што нас чакае пасьля Міленіюму, распавядае Мальвіна Антонаўна Максімік (1924 г. нар.), жыхарка вёскі Загараны Гарадзенскага раёну:**

«Зямля калісьці так от ўзарвецца, аболедзенее - такое будзе.

Канец... Канец сьвету не будзе. Тыко канец людзям будзе. От ужо прэнтко, я так думаю, што ужэ ў гэтум двацццаць першым веку ужо наш народ вымрэ. Ужэ не будзе народу... Яно гэто будзе яшчэ ўсё, як будзе зацьменьне, як гвязды зь неба будуць падаць, зямля агнём будзе гарэць. А гэто ўжэ ўсё, што мела быць, ужэ ест. Як будуць адзетыя хадзіць - а голыя будуць. Адзін капрон. Як будуць хадзіць - тэраз так усе ходзяць.



Пастане такая хвароба - зараза на сьвеце. Радзіація гэта ўсюды ж. Ужэ ж паветша заражана. Бо пападае дождж - зялёны. На вадзе зялёныя жабы сядзяць. І вымрэ народ наш. Вымра Еўропа. У Еўропе запануе жултай цэры наруд. Можа - кітайцы, мо - японцы: з Азіі дзе-та такі народ запануе. А ў Еўропе вымруць усенькі народ. Ад гэтаго паветша. Усё будзе зараджана: і вада, і воздух. Так і ест. Ці цо вы хочаце! Ужэ ест такія мейсца, дзе ужэ нічога: ні рыбы, ні жабаў - нічога няма. Страшно будзе. Жывыя ўмерлым будуць завідаваць.

Яшчэ народзіцца з пэўнэй жыдовкі Анцыхрыст. Па стаці Пана Езуса. А будзе наварочваць людзі: хто падпіша яму, той будзе жыць, а хто не падпішацца яму - ўжэ спаліць яго ў пячэ.

Запісвалі ў эты калхоз. Усе кажуць: «Эта ўжэ Анцыхрыст». То не быў Анцыхрыст, тыко, значыцца, камуністы. Ну, эціх многа было ў Германіі, скуль эта камуна паўстане. Але пісало так, жэ яна паўстане, але прападзе за двадзесьце чтэры годы.

Усё згіне, як прыйдзе канец. Ну й паляньце...

Так Бог даў. Пан Буог, як выганяў з раю Адама і Еву, сказаў, што «будзеце працаваць у поце чолу, а зямля вам будзе рабіць пасьля гэтаго тыко хвасты». А як жа ж! Баранавалі самы, цягалі. Эта ж раліг'я! Галіны бралі і цягалі-баранавалі самы. А чорт усё сядзеў на тых галінах, каб цяжэй было. А потым пярун даў у гэтаго чорта, у гэтыя галіны, дзе эты людзі баранавалі, і зрабіліса коні. І ад таго ўжэ коні пайшлі. Ужэ Пан Буг зьлітаваўса, даў коні, каб ужэ самыя не цягалі галіну. Ужэ лягчэй было коньмі баранаваць, як самому...»

**Ад рэдакцыі: Асабіста мы выказваем спадзеў на тое, што ўсё ў нас будзе добра. Як будзем разам, то ніякія пошасьці ня зробяць нам ліха!**

Фотаздымкі Сяржука Кузьняцова

## Ля каміна



**Юрась Гумянюк нарадзіўся ў 1969 годзе ў Горадні. Рэгулярна выступае ў айчынным і замежным друку як паэт, празаік і крытык з 1990 году. Скончыў аддзяленьне палянiстыкі філялягічнага факультэту ГарДУ імя Янкі Купалы (1994), тамсама вучыўся ў асьпірантуры. Працаваў на абласным радыё, у газэце «Пагоня», у гарадзенскім абласным тэатры лялек. Выдаў зборнікі вершаў «Водар цела» (1992), «Твар Тутанхамона» (1994), «Рытуал» (1999). Аўтар няскончанага раману «Апосталы нірваны», шэрагу казак для дзяцей, пастаўленых у гарадзенскім тэатры лялек. На яго вершы напісана каля двох дзясяткаў песень.**

### АПОШНЯЯ ДЭКАДА

Міне апошняя дэкада,
як гістарычнае здарэньне,
ля тэатральнай балюстрады
пакіне продкам гурмы ценяў.

Алегарычная цагліна
тэхнакратычнага стагодзьдзя
застыгне жоўтай субмарынай
у паэтычным агародзе.

І можа нехта расшыфруе
ланцуг загадкавых акордаў,
у сініх зрэнках узгадуе
іртутны бляск мізэрыкордый.

**1 сакавіка 1999**

### РАЗЬВІТАЛЬНАЯ ДЛЯ «БАРДЭЛЬКІ»

Пабачыш сонца, бы яешню
на патэльні, —
вантроба скурчыцца,
а страўнік забуркоча.
Яна шчэ сьвеціць — лямпка
ля гандэльні —
ня згасьне, нат калі
заплюшчыш вочы.

Па сходах крокаў пяць — і ты
на месцы,
ва ўтульнай яме,
што кавярняй называюць.
Азадкам уваб'еш ў падлогу
крэсла,
ледзь цазяхнеш — табе
гарэлку наліваюць

сябры-зайздросьнікі,
лісьлівыя знаёмцы,
зь якімі ўчора піў, а заўтра
не пазнаеш.
Адно запомніцца мігценьне
лямпкі-сонца,
што ў покуці заброcьнелай
канае.
Да пабачэньня, любая
«Бардэлька»! —
прытулак родны хіжых
абармотаў!
Пах кетчупа на змучаных
сардэльках
Ня выцісьне належнае
згрызоты.

**19 кастрычніка 1998**

### АМАРОКА

Распавядай прадбачлівым
злачынцам,
як чырванее пляма на зялёным,
і адбываецца містэрыя
каханьня
па-за мяжой сьвядомасьці
публічнай.

Распавядай, як голкі пад
пазногці
штовечар заганяюць
летуценьні,
разморанае цела
мальтратуюць,
як той сяканец, смажаць на
патэльні.

Распавядай, як ваўкія пачуцьці
сьцякаюцца па лесьвіцах
у неба,
якое, нібы стаў, дрыжыць і
прагне,
каб нехта дакрануўся да
паверхні.

Распавядай пра сотні
лябірынтаў
над чорнымі, што нафта,
валасамі.
Яны не забясьпечаць асалоду,
калі загар праб'е гадзіну ночы.

**1991**

### ЦЫЯНІСТЫ СЬНЕГ

Сухі парашок на далоні
зіхціць дыямантным агнём,
сівеюць юначыя скроні,
гудзе ў галаве танкадром.

Уздымаюцца рукі да неба —
і хмары працяты наскрозь.
Дрыжыць перамерзлая глеба,
спаруюцца радасьць і
злосьць.

Наш шлях адпачатку
бясконцы.
Дзень-ноч — чорнабелы
абсяг,
бы мэнтарскі тон замудонца,
бы ўпотай парэзаны сьцяг.

Схіляем сівыя галовы,
бо ў гэтым і ёсьць хараство.
Мы ўсе пачыналі ab ovo
і марылі пра status quo.

Апошнія гаснуць жаданьні.
Рассыпаўся Ноеў каўчэг.
Растане яшчэ да сьвітаньня
на пальцах цыяністы сьнег.

**3 лютага 1996**

### РАЗЬВІТАЛЬНЫ ПАЛЯНЭЗ

Жыцьцё, як цяжкі сон
алігафрэна
ў дзяржаве, што зьнікае
за вуглом,
скавыча надакучлівай гіенай
ды валіцца, бы спарахнелы дом.

Чытаецца, нібыта шыфраграма
і плача, як маленькае дзіця
у кінакадры кінапанарамы...
Скаштуй кавалак гэтага жыцьця!

Рассунь у інтэрнацкім ложку
ногі,
зірні — (а маць тваю!) дрымучы
лес.
Няўжо ў спацелых джунглях
насарогі
танцуюць разьвітальны
палянэз?

Забудзься на сусьветныя
рэкорды,
цікуй, пакуль адбудзецца
распад.
Ракеты, шатлы, боінгі, канкорды
расшарпаюць нябёсны лугасад.

Пасьля ў закурадымленай
прасторы
зазьзяе зеўра Лямпкай Ільіча,
ды ва ўнісон матацыклетныя
матory
падкажуць месца для
сакрэтнага ключа.

**15 сьнежня 1996**

# Мяжа пасярэдзіне сэрца

Юрась Корыкаў

*Нас падзялілі – хто? Чужаніцы...*
*Якуб Колас*

**Зараз, на пачатку 3-ага тысячагодзьдзя, насельніцтва Беларусі налічвае амаль 10 млн. чалавек, тэрыторыя краіны складае 207.6 тыс. км². Гэтыя статыстычныя дадзеныя вядомыя кожнаму школяру. Гэтаму ж школяру, калі ён добра вучыў гісторыю, таксама вядома, што тэрыторыя сучаснай нашай дзяржавы – гэта далёка ня ўсе беларускія землі. Значная частка іх знаходзіцца ў межах іншых дзяржаваў.**

На працягу стагодзьдзяў на землі нашае Бацькаўшчыны прэтэндавалі розныя дзяржавы. Так адбывалася й на пачатку мінулага веку, калі ў 1918-1920 гадох нашая краіна была расьцягнутая на часткі Расеяй, Польшчай, Летувой і Латвіяй.

Адразу пасьля рэвалюцыяў 1917 году пачала развальвацца некалі магутная Расейская імпэрыя. Стагодзьдзямі зняволеныя народы, нарэшце, атрымалі магчымасьць утварыць уласныя дзяржавы. Незалежнасьць абвесьцілі Польшча, Фінлядыя, Летува, Латвія, Украіна. 25 сакавіка 1918 году ў Менску была прынятая III устаўная грамата, якая абвесьціла Беларускую Народную Рэспубліку на тэрыторыях зь перавагай беларускага насельніцтва.

Аднак страта вялізных тэрыторыяў з больш як 12-мільённым насельніцтвам аніяк не адпавядала інтарэсам Расеі (цяпер ужо савецкай), якая намагалася на абломках старой царскай імпэрыі утварыць новую – бальшавіцкую. Расейскія войскі занялі кінутую немцамі беларускую зямлю і ўтварылі тут альтэрнатыўную да БНР савецкую беларускую рэспубліку. 30 сьнежня бальшавікамі абвяшчаецца "свабодная й незалежная" БССР у межах тагачасных Менскай, Смаленскай, Магілёўскай, Віцебскай і Гарадзенскай губэрніяў з далучэньнем да іх некаторых раёнаў Віленскай, Ковенскай, Сувалкаўскай і Чарнігаўскай губэрніяў. Насамрэч жа яна была ў поўнай залежнасьці ад Савецкай Расеі. Гэта можна было адчуць праз колькі дзён, калі тэрыторыю БССР абмежавалі да Гарадзенскай і Менскай губэрніяў, а ўсе астатнія землі передаваліся РСФСР.

Залежнасьць пацьвердзілася й тады, калі "сацыялістычная Бацькаўшчына" (г.зн. - Расея) у чарговы раз апынулася "ў небясьпецы". На гэты раз небясьпека зыходзіла ад узноўленай Польшчы, а таксама Летувы з Латвіяй. Каб забясьпечыць сабе падтрымку апошніх і зьліквідаваць пагрозу аб'яднаньня гэтых краін з II Рэччу Паспалітай у адзіны антырасейскі фронт, РСФСР падпісала зь Летувой і Латвіяй мірныя пагадненьні. За свой спакой бальшавікі разьлічваліся беларускай зямлёй. 12 ліпеня 1920 году была падпісаная дамова паміж Расеяй і Летувой. Паводле гэтай дамовы, Летуве пераходзіла вялікая частка беларускіх тэрыторыяў зь Вільняй, Гарадняй, Лідай ды іншымі местамі. Новая паўднёвая мяжа праходзіла ажно па Індуры й далей на ўсход па Нёману да Беразіны, затым на поўнач, пакідаючы Нарач і Браслаў на летувіскай тэрыторыі. Называлася гэтая мяжа... Руска-Літоўскай (!).

Амаль праз месяц – 11 жніўня 1920 году – аналягічная дамова была заключаная паміж Расеяй і Латвіяй. І справа ізноў тычылася беларускае зямлі. Але гэта ня надта хвалявала "братоў" з усходу, і яны з радасьцяй аддалі "братом-латышом" некалькі тысяч км² зямлі "братоў-беларусаў".

Далейшыя рабаўніцтвы беларусаў перадвызначыла перамога польскіх войскаў над Саветамі. За няўдалую спробу распаўсюджваньня бальшавіцкае рэвалюцыі на захад Расея, не вагаючыся, аддала палякам усю Заходнюю Беларусь...

Такім чынам, усяго за два гады мы згубілі большасьць сваіх этнічных земляў, якія ў нас адабралі нашыя суседзі.

Беларусь "ляпілі" й потым: да яе нешта далучалі, потым зноўку адбіралі... Самых беларусаў, як заўсёды, ні аб чым не пыталіся.



# Гісторыя аднае дамовы

Міхась Белы

**18 сакавіка спаўняецца 80 гадоў ад падпісаньня г.зв. Рыскай мірнай дамовы паміж Расеяй і Украінай з аднаго боку і Польшчай - з другога, якая моцна паўплывала на далейшае нацыянальнае, палітычнае, эканамічнае і культурнае жыцьцё беларускага народу.**

Падчас перамоўнага працэсу дэлегацыя РСФСР выступала за сябе й за дэлегацыю БССР. Беларусы ж да перамоваў дапушчаныя не былі, ня гледзячы на тое, што мірнае пагадненьне тычылася найперш іхных земляў й вырашала іхны лёс.

Паводле Рыскай мірнай дамовы, у складзе Польшчы апынулася каля 80.5 тыс. км$^2$ этнічна беларускай тэрыторыі з насельніцтвам больш за 3.5 млн. чалавек. Мяжа прайшла прыкладна пасярэдзіне Беларусі. Расея і Украіна адмаўляліся ад усялякіх правоў і прэтэнзіяў на гэтыя землі (арт. №3 дамовы). Віленшчыну й Гарадзеншчыну, якія РСФСР аддала Летуве паводле дамовы ад 12 ліпеня 1920 году, абвяшчаліся спрэчнымі паміж Польшчай і Летувіскай дзяржавамі. Інтарэсы і пазыцыя самых беларусаў у гэтай спрэчцы ня ўлічвалася наагул.

Адным з цікавых і малавядомых аспэктаў Рыскай дамовы зьяўляюцца пагадненьні, якія тычацца "вяртаньня" ў Польшчу культурных каштоўнасьцяў, вывезеных у Расею зь земляў былой Рэчы Паспалітай ад 1 студзеня 1772 году да 1918 году (арт. №11). Паводле гэтых пагадненьняў, РСФСР і ЎССР павінны былі вярнуць Польшчы ўсе каштоўнасьці, вывезеныя з тэрыторыяў, што ляглі на захад ад новай мяжы. Гэта значыць, што пад рэпатрыяцыю падпадала й заходнебеларуская культурная спадчына.

Аднак расейскі бок усяляк адцягваў працэс рэпатрыяцыі. У выніку, Польшча рэалізавала свае прэтэнзіі толькі па 32-ох пунктах з 80-ці. РСФСР вярнула Польскай Рэспубліцы ўсяго некалькі сотняў значных твораў мастацтва, частка якіх паходзіла з заходнебеларускіх земляў. У прыватнасьці, польскаму ўраду былі перададзеныя частка збораў Нясьвіскага замка, вывезеных у Расею ў 1792, 1812-1813 гадох; частка збораў Сапегаў зь Дзярэчынскага палаца, бібліятэчна-архіўна-музэйныя калекцыі А. Браніцкага (была эвакуяваная расейнымі ўладамі з маёнтку Рось); частку старажытных актаў, геаграфічныя мапы і пляны цьверадзяў і ўмацаваньняў і інш. Значная частка заходнебеларускіх каштоўнасьцяў і сёньня знаходзяцца ў палякаў.

Такім чынам Рыская мірная дамова была дыскрымінацыйнай для беларусаў ува ўсіх адносінах. Выкананьне ейных умоваў стварала пагрозу для існаваньня беларускае нацыі, падзеленай чужынцамі на некалькі частак, а таксама спрыяла расьцягваньню нашае культурнае спадчыны па ўсім сьвеце.



**Зь нясьвіскіх калекцыяў. Караблікі із сталовага прыбора. Эсаіс цур Ліндэн. Нюрнбэрг. Каля 1630 году.**



**Зь нясьвіскіх калекцыяў. Кілішак у форме савы. Польшча. Другая палова 16ст.**



**Зь нясьвіскіх калекцыяў. Зброя пачатку 17 ст., перарobленая ў Польшчы ў першай чвэрці 18ст.**

## Галерэя

# Шукальнік міру

Віялета Бузук

**Каб улагодзіць нейкую спрэчку або канфлікт, заўсёды неабходна знайсьці агульную мову, на якой можна паразумецца. Асабліва тады, калі гэта міжнацыянальны канфлікт. У сёньняшнім жыцьці ролю гэткае агульнае мовы часта выконвае ангельская. Усё гэта, у выніку, прыводзіць да заангельшчваньня іншых нацыянальных моваў, што, у сваю чаргу, правакуе новыя міжнацыянальныя канфлікты.**

Разьвязкай гэтае праблемы магло бы стаць стварэньне нейкай штучнай, цалкам нэўтральнай мовы, якая задаволіла бы ўсіх.

Найбольшую папулярнасьць у гэтым кірунку атрымаў праект міжнароднай мовы эспэранта, аўтарам якога лічыцца Лазар (Людвіг) Замэнгоф. Нарадзіўся ён 3 (15) сьнежня 1859 году ў Беластоку ў сям'і настаўніка. У мястэчку, якое тады ўваходзіла ў склад Расейскае імпэрыі, размаўлялі ў беларускай, расейскай, польскай, нямецкай, летувіскай ды жыдоўскай мовах, што выклікала шмат непаразуменьняў. Таму цалкам натуральным зьявілася зацікаўленьне Лазарам ідэяй стварэньня міжнароднай мовы. Аднак яго бацька хацеў, каб сын стаў адвакатам або доктарам, і не падтрымліваў захапленьняў юнака.

Малады Замэнгоф атрымаў прафэсію акуліста і прыступіў да практыкі ў Варшаве. Але думка аб стварэньні штучнай мовы не пакінула яго. І ў 28 гадоў Лазар апублікаваў сваю працу «Міжнародная мова. Прадмова і поўны падручнік», якую чакаў надзвычайны посьпех. Напэўна, аўтар напачатку нават і не спадзяваўся на гэткую рэакцыю з боку чытачоў: ён не насьмеліўся назваць свайго сапраўднага ймя і кніга выйшла пад псэўданімам «Доктар Эспэранта" (слова "эспэранта» ў прапанаванай маладым акулістам мове азначае «які спадзяецца»). Аднак зь цягам часу новая мова, атрымаўшы назву «эспэранта», стала прызнаным сродкам міжнацыянальных зносінаў.



Лазар (Людвіг) Замэнгоф

У 1893 годзе Замэнгоф пераехаў з Варшавы ў Горадню ў пошуках мэдычнае практыкі. У "Памятных книжках Гродненской губернии" 1896-1897 г.г. ён значыўся ў сьпісах прыватных лекараў. Лазар Замэнгоф кватэраваў па вуліцы Паліцэйскай (сёньня - вуліца Кірава) у доме Рахманіна. Нягледзячы на занятасьць мэдычнай практыкай, ён удзельнічаў у таварыстве дактароў Гарадзенскае губэрні. Адначасова Замэнгоф працягваў рэдагаваць часапіс «Эспэрантыст», займаў пасаду прысяжнага ў мясцовым судзе. У 1897 годзе Лазар разам зь сям'ёй ад'ехаў у Варшаву. Памёр "Доктар Эспэранта" 14 (27) красавіка 1917 году.

У 1991 годзе ў Горадні была ўсталяваная памятная дошка ў гонар Лазара Замэнгофа на доме па вуліцы Кірава. Адна з вуліц у пасёлку Паўднёвы, што на ўскрайку места, таксама носіць гэтае славутае імя. Больш за 15 гадоў існуе клюб аматараў эспэранта, адбываюцца канфэрэнцыі, паседжаньні, прысьвечаныя знакамітай асобе.

Цудоўна было бы, каб эспэранта стала другой мовай для ўсіх людзей. Па-першае, гэта дазволіла бы ўсім народам на роўных правах разьвіваць свае нацыянальныя мовы і культуры, не баючыся асыміляцыі з боку іншых народаў. Па-другое, дазволіла б дасягнуць большага ўзаемаразуменьня між людзьмі з розных краін. Па-трэцяе, зьнікла бы адна з найважнейшых прычын міжнацыянальнай варожасьці. Таму эспэранта - гэта шлях да міру, дэмакратыі і сапрўднага ўзаемаразуменьня ўва ўсім сьвеце.



Мы выказваем шчырую падзяку Артуру Ганьку, Аляксандру Мілінкевічу, газэце «Пагоня», Андрусю Мялешку, Вітаўту Рудніку, Сяржуку Салею, Юрасю Тарасевічу, Алесю Госьцеву, Уладзімеру Выдзерку, Юлі Дарашкевіч, а таксама ўсім астатнім, хто спрычыніўся да стварэньня гэтага нумару. Спадзяемся на далейшае плённае супрацоўніцтва. Рэдакцыя.

Гэты нумар выдадзены пры падтрымцы Гарадзенскай арганізацыі «Малады Фронт».

Дзядзінец – неперыядычнае выданьне маладых краязнаўцаў Гарадзеншчыны. Друкуецца ў беларускай мове. Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Рэдакцыя можа зьмяняць матэрыялы дзеля агульнага абмеркаваньня, не падзяляючы думкі аўтараў.
Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, Горадня, 230020, Беларусь.
Выдаецца пры тэхнічнай дапамозе ГА «Маладая Грамада» і ГА «Ратуша» (м. Горадня)

Рэдактар: Валеры Руселік
Мастак: Алесь Суровы